ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# ПРАПАНОВЫ МІХАІЛА КАЯЛОВІЧА АБ АДУКАЦЫЙНЫХ РЭФОРМАХ У БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ГУБЕРНЯХ (1887 ГОД)

АНДРЭЙ ЦІХАМІРАЎ

***Анатацыя:*** Абмяркоўваюцца прапановы гісторыка Міхаіла Каяловіча па адукацыйнай рэформе ў беларуска-літоўскіх губернях, скіраваныя на большы ўплыў праваслаўнай царквы і ўзмацненне русіфікацыі ў адукацыйнай сферы.

***Ключавыя словы:*** адукацыя, школа, брацтвы, царква, русіфікацыя.

# SUGGESTIONS ON EDUCATIONAL REFORMS IN BELARUSIAN-LITHUANIAN PROVINCES BY MICHAIL KAJALOVIČ (1887)

***Abstract:*** The paper discusses proposals for educational reform in the Belarusian-Lithuanian provinces introduced by historian Michail Kajalovič and aimed at increasing the influence of the Orthodox Church and strengthening Russification in the educational sphere.

***Keywords:*** Education, School, Fraternities, Church, Russification.

Міхаіл Каяловіч (1828–1891) быў не толькі вядомым гісторыкам, публіцыстам і каментатарам тагачаснага жыцця, але і чалавекам, які актыўна ўплываў на прапановы і фактычныя дзеянні расійскіх імперскіх адміністратараў на тэрыторыі "Паўночна-Заходняга краю". Сярод самых розных пытанняў прафесар Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі закранаў таксама і народную асвету, разумеючы яе значэнне для культурнай і палітычнай тоеснасці шырокіх мас насельніцтва. Галоўны тэарэтык "заходнерусізму" другой паловы XIX стагоддзя свае развагі наконт магчымай рэформы асноўнай адукацыі выказаў 10 сакавіка 1887 года на пасяджэнні Камісіі па абмеркаванні вучылішчнай народнай справы ў Заходняй Расіі. Згодна з рашэннем камісіі, гэтыя прапановы былі надрукаваныя асобнай брашурай 20 сакавіка 1887 года ў Пецярбургу. Цікава, што сам аўтар назваў гэты тэкст (надрукаваны ў невялікай колькасці асобнікаў) "моим западнорусским завещанием" (Коялович, 1887а: 36).

Ва ўводзінах да сваіх прапановаў М. Каяловіч падкрэсліваў дваісты характар існуючай на той час сістэмы школьнай адукацыі на тэрыторыі "Паўночна-Заходняга краю" – частка школаў кантралявалася праваслаўным царкоўным ведамствам, а частка – Міністэрствам народнай асветы. У сувязі з *"важнасцю мясцовых умоваў заходнярускага жыцця"* гісторык прапаноўваў аб'яднанне прынцыпаў свецкай і царкоўнай адукацыі дзеля лепшай асветы *"сярод простага люду"* (Коялович, 1887а: 36). Дзяржава, на думку М. Каяловіча, павінна сцісла прытрымлівацца супрацоўніцтва з царквой на гэтых землях, асабліва ў сувязі з папярэднім вопытам асветніцкай палітыкі ў першай палове XIX стагоддзя. Каяловіч нагадваў аб прыцягненні езуітаў да навучання ў часы Кацярыны II, вопыт Віленскай навучальнай акругі пад кіраўніцтвам князя Адама Чартарыйскага пры Аляксандры I і засцерагаў перад "штучным" падзелам на свецкую і рэлігійную адукацыю. Асноўная пагроза аўтарам бачылася ў развіцці пратэстанцкіх дэнамінацый ("штундыстаў") і "расійскага лацінства" – уводзе расійскай мовы ў каталіцкае богаслужэнне ў частцы парафіяў краю (Коялович, 1887а: 36об–37). Аўтар таксама бачыў пагрозу для адукацыі ў "расійскім і праваслаўным ключы" ў магчымым уводзе земскай сістэмы і паступовым уплыве на яе з боку імавернай польскай і габрэйскай большасці. Таксама нават калі будзе знятая гэтая пагроза (г. зн. не будуць уведзеныя земствы і ваеннае становішча працягнецца яшчэ доўгі час – аўтар нават пісаў пра стагоддзе), то міністэрства "вымушана" займацца неправаслаўнай большасцю ў сваіх установах, дзе ў сувязі з рэлігійнымі акалічнасцямі настаўнікі *"вымушаныя лагодзіць сілу праваслаўных расійскіх уяўленняў падчас выкладання такіх прадметаў, як расійская мова, гісторыя"*

(Коялович, 1887а: 38). Міністэрства і царкоўная адміністрацыя павінны дзейнічаць разам, асабліва ў мясцовасцях са "змешаным насельніцтвам", дзе праваслаўныя не складаюць выразнай большасці. М. Каяловіч наракаў таксама на пасіўнасць і слабасць мясцовых "расійскіх сілаў" у справе адукацыі і на ўзрастанне кансалідацыі "польскіх сілаў". У якасці надзейнай грамадскай апоры для шырокай адукацыйнай дзейнасці М. Каяловіч прапаноўваў праваслаўныя брацтвы. Брацтвы "ў ідэале" павінны былі працаваць прыкладна такім самым чынам, як у XVII–XVIII стагоддзях, прычым не толькі на ўзроўні вялікіх гарадоў, як Вільня і Кіеў, але нават на павятовым абшары. Выкарыстанне брацтваў, на думку гісторыка, магчыма нават на тэрыторыях з каталіцкай большасцю (нават з літоўскай большасцю). У такім выпадку каталікі не змогуць паўплываць на сістэму асветы, бо не могуць быць чальцамі праваслаўных брацтваў. Асвета нават у такіх мясцовасцях павінна адбывацца выключна ў "расійскім духу".

М. Каяловіч прапаноўваў падвышэнне матэрыяльнага і настаўніцкага ўзроўню царкоўных вучылішчаў праз адпаведнае пераразмеркаванне сродкаў паміж ведамствамі, адначасна ж свецкія адукацыйныя ўстановы павінны былі пашырыць рэлігійны кампанент *"у праграмах, кнігах, выхаванні і скіраванасці настаўнікаў"* (Коялович, 1887а: 40). Нават для літоўскіх мясцовасцей прапаноўвалася стварэнне праваслаўных вучылішчаў, але з умовай, што каталіцкае духавенства не будзе дапускаць іншых дадатковых моваў апрача польскай у лацінскім богаслужэнні.

Асноўныя прапановы М. Каяловіча зводзіліся да наступнага. Існуючая на той час сістэма кіравання асветай павінна была быць захаваная. Дзеля змяншэння разрыву паміж свецкімі і царкоўнымі ўстановамі прызначаюцца дадатковыя фінансавыя сродкі для царкоўных установаў. Таксама павінен існаваць асобны член кансісторыі для назірання за царкоўна-прыходскімі вучылішчамі, а таксама кожная царкоўная вучэльня павінна мець асобнага катэхізатара, каб палегчыць абавязкі праваслаўнага святара. М. Каяловіч таксама прапаноўваў стварэнне новага органа – вучылішчных брацкіх саветаў (цэнтральных для "паўднёва-заходніх" і "паўночна-заходніх" губерняў, асобных для кожнай губерні і кожнага павета). Менавіта гэтыя саветы павінны былі весці ўсе справы паміж адукацыйнымі ўстановамі двух ведамстваў, у тым ліку і вырашаць усе спрэчкі і канфлікты. Цэнтральныя брацкія саветы ў Вільні і Кіеве павінны былі ўзначальваць мясцовыя праваслаўныя епіскапы ці іх вікарыі. Апрача іх і вышэйшых свецкіх чыноўнікаў (у тым ліку генерал-губернатараў), у савет павінны былі ўваходзіць два выбраныя чальцы брацтва (Коялович, 1887а: 41об–42). Брацтвы на ніжэйшым адміністратыўным узроўні павінны таксама

стварыць губернскія і павятовыя брацкія саветы, якія, апрача вядзення справаў, павінны былі таксама размяркоўваць фінансавыя сродкі на адпаведныя школы. Павятовыя брацкія саветы ўжо не мелі б права голасу ў размеркаванні фінансаў, але галоўным чынам павінны былі сачыць за *"тайнымі польскімі школамі"* і, адпаведна, хутка іх выкрываць, а таксама сачыць за тым, каб настаўнікі расійскіх школаў не навучалі польскай грамаце *"нават пад выглядам навучання польскім малітвам"* (Коялович, 1887a: 43об). Адзіны вынятак мог быць зроблены толькі для "чыста літоўскіх мясцовасцей", дзе можна было б навучаць малітвам па-літоўску, але выключна акрэсленым у адпаведнай кнізе. М. Каяловіч таксама прапаноўваў выключыць духавенства іншых веравызнанняў нават з навучання малітваў, бо *"ксёндз будзе вучыць па-польску, а пастар – па-нямецку".* Навучанне малітвам па-літоўску таксама не можа адбывацца пад кіраўніцтвам ксяндза, бо можа адбывацца па кніжках з лацінскім алфавітам, г.зн. "наўпрост па-польску". Валасны старшыня, сельскі староста і звычайны дзясятнік, на думку М. Каяловіча, павінны былі забяспечыць працэс адукацыі ў адпаведным кірунку, асабліва *"ў мясцовасцях з чыста лацінскім насельніцтвам"* (Коялович, 1887a: 44). 11 красавіка 1887 года М. Каяловіч у лісце ў Вільню адзначаў, што ягоны праект *"обхаяли и отвергли"* (Коялович, 1887b: 45об).

Падводзячы вынік, варта адзначыць, што асноўная праблематыка прапановаў канцэнтравалася вакол узгаднення пазіцый паміж сістэмай школьнай асветы, якой кіравала Міністэрства народнай асветы Расійскай Імперыі, і сістэмай царкоўна-прыходскіх школаў. Выразныя напружанні паміж імі выклікалі жаданне ўзгаднення пазіцый па кіраванні сістэмай адукацыі і ўзмацнення ўплыву царквы на вучняў. Фактычна ў прапановах М. Каяловіча выказвалася думка пра неабходнасць падпарадкавання свецкіх адукацыйных установаў мясцовым праваслаўным іерархам. Апрача гэтага, варта звярнуць увагу і на выразны русіфікацыйны кампанент гэтых праектаў і жаданне пступова выкараніць існаванне каталіцкага веравызнання і "польска-габрэйскіх уплываў" на тэрыторыі "Паўночна-Заходняга краю".

***Бібліяграфія***

1. Коялович, Михаил (1887a). *Объяснительная записка.* 20. 03. 1887. Российский государственный архив литературы и искусства (РГАЛИ), Ф. 1077, оп. 1, ед. хр. 2, лл. 36–44об.

2. Коялович, Михаил (1887b). *Письмо Котовичу И. А.* 11. 04. 1887. Российский государственный архив литературы и искусства (РГАЛИ), Ф. 1077, оп. 1, ед. хр. 2, лл. 45–46.